СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.03, 18.29, 12.26;
Віцебск — 5.53, 18.20, 12.27;
Магілёў — 5.52, 18.18, 12.26;
Гомель — 5.48, 18.17, 12.29;
Гродна — 6.16, 18.46, 12.30;
Брэст — 6.20, 18.44, 12.24

МЕСЯЦ:
Поўня 18 сакавіка.

ІМЯНІНЫ
Сафрона, Яўхіма; Марка, Габрыэля

# ЗВЯЗДА

24 САКАВІКА 1992 г. аўторак, № 60 (21838)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

## РОЗГАЛАС

### ШАНЦЫ ФЕРМЕРАЎ ПАВЯЛІЧЫЛІСЯ НА 22 ТЫСЯЧЫ

**Па прывычцы ўспрымаем веснавую сяўбу толькі ў дачыненні да калгасна-саўгаснай сістэмы. Яна, зразумела, нікуды не дзелася і, хоць працягваем аўтаматычна і без асаблівага ўжо натхнення яе лаяць, як толькі прыходзіць вясна — так і пачынаецца: агратэхніка, фонды, запчасткі, угнаенні. Між тым, па-беларуску нетаропка пачынае акрэслівацца новая сіла, новыя гаспадары — фермеры. Праўда, пытанне не павінна стаяць так катэгарычна-прымітыўна: накормяць ці не накормяць. Важней, наколькі хутка яны стануць на ногі. Сёлетняй вясной у гэтым сэнсе пачало адбывацца штосьці станоўчае.**

Шматлікія звароты Сялянскага саюза да ўладарных структур рэспублікі, нарэшце, далі вынік. Замест 3 тысяч фермер можа цяпер узяць крэдыту ў разліку на гектар 25 тысяч рублёў. А гэта — тэхніка, інвентар, насенне — тое, без чаго не пасееш. Як ні дзіўна, павышэнне цэн нейкім чынам (хоць і адносна) дапамагло фермеру. У калгасах і саўгасах усё больш усталёўваецца цвярозы погляд на жыццё — трактар за 300—400 тысяч там не купяць. Сваіх грошай — нягуста, а крэдыты банк даваць не спяшаецца, а калі і дасць, то трэба будзе аддаваць. Спісанне пазык дзяржаве больш не з'яўляецца надта папулярнай акцыяй. Такім чынам, трактар МТЗ ужо не самы страшны дэфіцыт, яго не прыходзіцца вымольваць ледзь не ў дзесятках кабінетаў. Ёсць грошы — купляй. Няма — дык можа выбраць іншы род дзейнасці? Калі ў вас 30 гектараў, напрыклад, то крэдыт можна ўзяць у межах 750 тысяч рублёў. І купіць усё, што трэба.

А насенне фермеры, хутчэй за ўсё, атрымаюць з дзяржаўных фондаў, што нельга не назваць разумным крокам. У рэшце рэшт, бульбу і мяса беларускі фермер у Галандыю не павязе, прадасць нам.

Наогул, вольны гаспадар ва ўмовах рынку адчувае сябе больш камфортна, чым дзяржаўна - кааператыўная гаспадарка. Бо залежыць ён не столькі ад чарговага павароту ў сельскагаспадарчай палітыцы ўрада, а больш ад самога сябе — сваіх прафесіянальных якасцей, і калі хочаце, хітрасці.

Дарэчы, зараз Беларусь мае амаль 900 фермераў плюс 200—300 заяў на атрыманне зямлі. У асабістым карыстанні знаходзіцца 25 тысяч гектараў зямлі, інакш кажучы, 6—7 сярэдняй рукі калгасаў. Калі суаднесці з агульным насельніцтвам рэспублікі — дробязь, калі нагадаць, што месяц назад фермераў было крыху больш чым 700— то гэта ўжо варта ўвагі.

**С. ПАЎЛАЎ.**

### НЕ Ў ДЗВЕРЫ, ДЫК У АКНО...

**Рэчаіснасць зафіксавала самыя незвычайныя спосабы, якімі карысталіся, каб абысці Закон. Але спосаб, які прымяніла былая Маскоўская цэнтральная біржа нерухомасці, няйначай, звышарыгінальны. Як паведамляе штотыднёвік «Коммерсантъ», біржавы савет МЦБН, каб не ўступаць у супярэчанне з Законам аб таварных біржах, які забараніў праводзіць на іх аперацыі з нерухомасцю, прыняў рашэнне называцца надалей не «біржа», а «буржа». Ну, а пункта, які забараняў бы продаж нерухомасці праз «буржу», у тым законе няма. Штотыднёвік з'едліва падкрэслівае: калі буржавы рух стане вельмі актыўным, не выключана, што ўрад адгукнецца законам «Аб таварных буржах...»**

Выпадак анекдатычны. А для дэпутатаў намёк: усякі закон патрабуе выключнай распрацоўкі. З тым каб у ім было як мага менш розных пралазаў. Хоць, вядома, народна-масавая творчасць у любым выпадку пераўзыдзе дэпутацкую (нездарма ж і масавая) і хоць невялічкі пралаз ды знойдзе.

### БАРАНАВІЦКІЯ НАВІНЫ

*Чатырнаццаць турэцкіх будаўнікоў трапілі ў гарадскую бальніцу ў выніку харчовага атручэння. Цікава, што гэта здарылася 7-га і 8-га сакавіка. Ці то гаспадыні з няўвагаю паставіліся да гасцей, ці то самі рабочыя перахваляваліся: пілі і забывалі закусваць.*

***

*Днямі адбылася аварыя на шашы Баранавічы—Слонім.*

*Вадзіцель аўтамашыны «ГАЗ-53», відаць, забыўшыся Правілы дарожнага руху, выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з «Ікарусам», які ішоў з чатырнаццаццю пасажырамі. Грузавік успыхнуў, а аўтобус перавярнуўся.*

***

*У некаторых сталовых раёна, каб зменшыць страты прадпрыемстваў агульнага харчавання і павелічэння сум адлічэнняў у бюджэт для датацыі на харчаванне дзяцей, дазволены продаж спіртных напіткаў. Цяпер у дарослых, відаць, апетыт стане яшчэ лепшым, бо адразу ж можна і закусіць.*

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

### У АДНАРАЗОВЫХ ЧАРАВІКАХ— ДА СВЕТЛАЙ БУДУЧЫНІ

**А таксама аб тым, ці трэба заганяць джына лібералізацыі ў бутэльку разумных межаў!**

Асабіста я не схільны падтрымліваць тых, хто, выкарыстоўваючы трапнае слова з нашай багатай мовы, імкнецца ўзмацніць з дапамогай сродкаў масавай інфармацыі і без таго празмерную «істэрыю цэн».

Дык вось у апошні час, гартаючы старонкі газет, міжволі заўважаеш, што амаль палавіна змяшчаемых матэрыялаў прысвечана «абсурду» сённяшняга цэнаўтварэння. Здавалася б, усё правільна: некаму ж трэба стаяць на пазіцыях абароны інтарэсаў насельніцтва ад інтарэсаў монстраў манапалізму. Тым больш, што сённяшнія цэны, якія цвярозым розумам зразумець нельга, вырваліся на прастору лібералізацыі, нібы джын з бутэлькі, і разгуляліся з уласцівым толькі для нас размахам. Гэта стала ўжо асноўнай тэмай размоў на кухні, з суседам, на аўтобусным прыпынку, на рабоце і, канешне, у чарзе за ўсеагульным дэфіцытам.

Цэнавая тэматыка нашых выданняў паступова і, зрэшты, небяспечна перарастае сваё непасрэднае прызначэнне і ператвараецца ў сродак папулісцкіх спекуляцый палітычных сіл, якія ў імкненні да ўлады распачалі шалёную крытыку рэформ з мэтай дыскрэдытаваць іх, абяцаючы ўзамен хуткае паляпшэнне жыцця. Ва ўмовах нашага эканамічнага развалу клюнуць на дэмагагічны кручок зусім проста, вызвалянніцца ж куды складаней, наадварот — гэтак жа проста можна прыйсці да таталітарызму.

Успомнім: з самага пачатку рэформ добрага жыцця ў бліжэйшым будучым нам ніхто не абяцаў, бо абяцаць такое было немагчыма. А немагчыма таму, што зайшлі залішне далёка, адтэрміноўваючы непапулярныя, але неабходныя рэформы. У такой сітуацыі цывілізаваныя людзі перш за ўсё падумалі б: а ці не лепш паверыць усё-такі законнаму ўраду і хоць бы перастаць перашкаджаць яму. У прыватнасці, тэкстамі бліскучых, але танных прамоў. Цудаў на свеце не бывае, і з такой спадчынай, пакінутай гаспадарнікамі-бальшавікамі, ні адзін урад у лічаныя дні не навядзе парадак. Дапамагчы ж яму канструктыўнасцю сваіх паводзін мы яшчэ можам.

І ўсё ж розум адмаўляецца зразумець тое, што адбываецца з цэнамі. А разам з тым, на жаль, не толькі з імі.

Нядаўна шчасце выпала на долю працаўнікоў калгаса «Шлях да камунізму» Клецкага раёна. Кіраўніцтву калгаса, за што яму, зрэшты, вялікі дзякуй, удалося нейкім цудам здабыць на Віцебскай абутковай фабрыцы некалькі соцень пар абутку. Былі тут і жаночыя боцікі за 140 (!) рублёў, і мужчынскія туфлі за 237, якія, між іншым, нагадвалі звычайныя хатнія тапкі, а па якасці — да першай лужыны... Праўда, усё роўна разабралі: хто ж ідзе да светлай будучыні босы?..

**Уладзімір ЛОБАН.**
Клецкі раён.

### ЗАРАБЛЯЦЬ НАВУЧЫЛІСЯ? ЦЯПЕР ПАСПРАБУЙЦЕ НАВУЧЫЦЦА АТРЫМЛІВАЦЬ

Філіял Ашчаднага банка № 8006 Першамайскага раёна ў 11 гадзін ужо нагадваў таўкучку: да кас не прабіцца, гоман. Будынак невялікі, людзі нават на вуліцы чакаюць сваёй чаргі. Дададзім, што на гэтым «сюрпрызы» банка яшчэ не заканчваюцца: яго бухгалтэрыя знаходзіцца на вуліцы Сядых, а сам будынак — на праспекце Скарыны. Калі ва ўкладчыкаў узнікаюць пытанні ці якія-небудзь праблемы, тады трэба ехаць у бухгалтэрыю, а потым зноў вяртацца назад.

Яшчэ адно назіранне. Памятаеце пастанову Савета Міністраў № 6208? Нагадаем, што там гаворыцца аб чэкавых кніжках і таварах, якія каштуюць больш за 500 рублёў. Дык вось, каб выпісаць і аформіць такую кніжку, патрабуецца 20 мінут. Прыкіньце, колькі трэба патраціць часу чалавеку, які стаіць у чарзе, напрыклад, дзесятым. Каля трох гадзін. Але ёсць яшчэ такая рэч, як чэк, на выпіску якога ідзе пяць мінут. Згадзіцеся, разбег у часе вялікі, і ўсе гэта разумеюць. Але ў гандлі чамусьці чэкаў не прымаюць, давайце чэкавую кніжку—і баста.

А цяпер маленькая парада для вас, шаноўныя спадары. Калі вы хочаце зняць з ашчаднай кніжкі вялікую суму грошай — гэта магчыма. Трэба толькі з розумам падысці да гэтай далікатнай справы. Папрасіце, каб выпісалі заяўку ў Нацыянальны банк і лічыце, што грошы будуць у вашай кішэні заўтра або праз дзень. Вось і ўся прамудрасць (Нацыянальны банк падмацоўвае ашчадныя толькі на 60—70 працэнтаў. Адсюль і дэфіцыт наяўных грошай).

І яшчэ адна «прыемная» навіна. З 12 сакавіка, аказваецца, у абарот уведзены 1000-рублёвыя банкноты. Пакуль у нашых банках іх няма, але вось-вось з'явяцца. Так што, будзем спадзявацца, праблем з грашамі ў ашчадных банках будзе менш.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

### Карабін не стрэліў

**ТАЛАЧЫН (Т. Махтадуй). Жыхар вёскі Анеліна Яўген Макарэвіч кожны вечар, перш чым класціся спаць, даставаў з-пад падушкі нямецкі карабін. Невядома, з якіх рук дастаўся яму, трыццацігадоваму, гэты трафей і для якіх мэт ён разлічваў яго выкарыстаць.**

**Днямі да яго нечакана наведаліся работнікі міліцыі, якія канфіскавалі зброю. Так і не стрэліў карабін з часоў вайны. А яго апошняму гаспадару ўдалося збегчы ў невядомым напрамку. Вядзецца яго актыўны пошук.**

### Булкамі больш не пахне

БРЭСТ **(Ю. Фёдарава).** Спынены адзін з трох хлебазаводаў горада. Тут пяклі самыя смачныя ў Брэсце беласнежныя булкі. Прадпрыемству для іх выпечкі не хапала мукі вышэйшага гатунку, а таксама быў пастаянны дэфіцыт кампанентаў, патрэбных для высокагатунковага печыва. Такім чынам, у цэнтры горада, дзе знаходзіцца завод, цяпер печывам не пахне.

## УРАДАВАЯ ХРОНІКА

### ДЗЕЛЯ САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЫ СЕМ'ЯЎ ВАЕННАСЛУЖАЧЫХ

Днямі беларускі ўрад прыняў распараджэнне, накіраванае на ўзмацненне сацыяльнай абароны сем'яў ваеннаслужачых, загінуўшых (нябожчыкаў) у мірны час пры праходжанні воінскай службы ва ўзброеных сілах, а таксама сем'яў ваеннаслужачых, загінуўшых пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку. Згодна з ім Дзяржкампрацы даручана да 15 жніўня 1992 года распрацаваць праект праграмы паляпшэння ўмоў жыцця і быту воінаў-інтэрнацыяналістаў, сем'яў ваеннаслужачых, загінуўшых пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, загінуўшых (нябожчыкаў) у мірны час пры праходжанні воінскай службы, а шэрагу міністэрстваў і ведамстваў — у месячны тэрмін вызначыць кантынгент асоб, на якіх павінны распаўсюджвацца льготы і сацыяльныя гарантыі.

Прадугледжана таксама правесці адначасовы ўлік колькасці і абследаванне матэрыяльна-бытавых умоў жыцця такіх сем'яў. Дзеля садзейнічання гэтай рабоце ствараюцца спецыяльныя камісіі з удзелам прадстаўнікоў ваенкаматаў, органаў дзяржаўнай бяспекі, унутраных спраў, дэпутатаў мясцовых Саветаў.

### ЯШЧЭ РАЗ АБ ФОНДЗЕ ІНФАРМАТЫЗАЦЫІ

Як вядома, у канцы мінулага года створаны Рэспубліканскі фонд інфарматызацыі. Нядаўна Савет Міністраў прыняў пастанову, дзе ўдакладняецца, што гэты фонд з'яўляецца дзяржаўна-грамадскай арганізацыяй, якая функцыяніруе пры Дзяржэканомплане і дзейнічае на аснове заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Зацверджана таксама Палажэнне аб фондзе, згодна з якім асноўнымі напрамкамі яго дзейнасці з'яўляюцца арганізацыя конкурснага адбору праектаў Праграмы інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь на 1991—1995 гады і на перыяд да 2000 года, ініцыятыўных праблем і тэм для фарміравання дзяржаўнага заказу і мэтавае іх фінансаванне, удзел у рабоце міжнародных арганізацый у галіне інфарматызацыі і прыцягненне замежных інвестыцый. Фонд будзе таксама ажыццяўляць фінансаванне фундаментальных і пошукавых даследаванняў, развіццё матэрыяльнай базы вытворчасці інфармацыйных тэхналогій, стварэння цэнтраў інфарматызацыі і іншых навуковых і вытворчых аб'ектаў, прызначаных для ўкаранення і абслугоўвання гэтых тэхналогій, мерапрыемстваў па падрыхтоўцы навуковых кадраў і спецыялістаў у галіне інфармацыйных тэхналогій; выдзяленне асігнаванняў на правядзенне самастойных даследаванняў і распрацовак найбольш таленавітай навуковай моладдзю і стажыроўку маладых вучоных у вядучых навуковых цэнтрах свету.

Старшынёй праўлення Фонду інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь назначаны М. М. Канапацкі — начальнік аддзела інфармацыі Дзяржэканомплана.

### ЯКОЙ БУДЗЕ РЫБААХОЎНАЯ СЛУЖБА РЭСПУБЛІКІ?

Згодна з пастановай Савета Міністраў, Беларускае басейнавае ўпраўленне па ахове і ўзнаўленню рыбных запасаў і рэгуляванню рыбалоўства Міністэрства рыбнай гаспадаркі СССР (Белрыбвод) пераўтворана ў Галоўнае ўпраўленне па ахове і ўзнаўленю рыбных запасаў і рэгуляванню рыбалоўства пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь (Галоўрыбвод). Прадугледжана, што галоўнымі функцыямі гэтай арганізацыі цяпер з'яўляюцца ахова запасаў рыб і іншых водных жывёл і раслін, распрацоўка і ажыццяўленне мерапрыемстваў па іх узнаўленню і рацыянальнаму выкарыстанню ў рыбагаспадарчых вадаёмах, аказанне метадычнай і практычнай дапамогі карыстальнікам рыбагаспадарчых вадаёмаў у павышэнні іх прадуктыўнасці, кантроль за выкананнем заканадаўства Рэспублікі Беларусь і іншых нарматыўных актаў па пытаннях аховы і ўзнаўлення рыбных запасаў і рэгулявання рыбалоўства, нагляд за станам рыбагаспадарчых вадаёмаў і ажыццяўленнем мерапрыемстваў па прадухіленню іх забруджвання, засмечвання і іншых відаў шкоднага ўздзеяння на запасы рыб, іншых водных жывёл і раслін, рэгуляванне аматарскага і спартыўнага рыбалоўства, садзейнічанне развіццю яго арганізацыйных форм.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**



## Садружнасць—прыгожая мара, за якую варта змагацца

**Нататкі спецыяльнага карэспандэнта «Звязды» з сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў — удзельніц СНД у Кіеве**

Дзіўнай і часам вельмі незразумелай свету з'яўляецца наша шматпакутная Садружнасць Незалежных Дзяржаў. Не ведаю, як іншых некалькі соцень журналістаў, але мяне асабіста найбольш уразіла на прэс-канферэнцыі ў Кіеве аргументацыя Л. Краўчука, калі ён па ходу размовы абверг апублікаваную ў адной з расійскіх газет інфармацыю аб тым, што быццам бы ён, Краўчук, напярэдадні кіеўскай сустрэчы пасля тэлефоннай размовы з Ельцыным дэзавуіраваў рашэнне аб прыпыненні вываду і ліквідацыі тактычнай ядзернай зброі на тэрыторыі Украіны. Леанід Макаравіч сказаў літаральна наступнае: «Апошні раз з Ельцыным па тэлефоне я размаўляў 16 лютага. Ён гэта можа пацвердзіць».

Барыс Мікалаевіч не стаў удакладняць дату размовы. Аднак, думаецца, многія прысутныя занатавалі гэты выпадак у блакнотах як сведчанне не зусім прыязных асабістых адносін кіраўнікоў дзвюх буйнейшых дзяржаў Садружнасці. Спрэчкі Украіны і Расіі наконт Крыма, Чарнаморскага флоту, будучых свабодных цэн на энерганосьбіты, падзелу спадчыны СССР і іншыя, падобна моцнаму землетрасенню, пагражаюць самому існаванню СНД. А два прэзідэнты, ад волі і мудрасці якіх залежыць яе лёс, больш месяца не чуюць адзін аднаго.

Таму натуральна прагучала пытанне аднаго з замежных карэспандэнтаў да ўсіх удзельнікаў прэс-канферэнцыі: улічваючы сённяшнія адносіны паміж краінамі СНД, ці правамерным будзе называць гэта аб'яднанне Садружнасцю? Ці не з'яўляецца гэта спробай выдаць жаданае за існуючае?

Л. Краўчук сказаў, што СНД — гэта мара! Б. Ельцын адзначыў: Садружнасць — дынамічны працэс, які прывядзе да ажыццяўлення мары. М. Снегур пагадзіўся з гэтымі меркаваннямі. А. Акаеў крыху развіў іх: Садружнасць — не проста мара, а неабходнасць. Л. Тэр-Петрасян удакладніў: Садружнасць — непазбежны працэс. Н. Назарбаеў падкрэсліў, што СНД тая мара, да якой трэба імкнуцца. С. Шушкевіч сваім адказам нават сарваў апладысменты: СНД можна ў значна большай ступені лічыць Садружнасцю, чым былы СССР — Саюзам.

І сапраўды, звязаныя таталітарным цэнтрам адным ланцугом, мы міжволі падпарадкоўваліся крамлёўскім рулявым, плылі туды, куды нам загадвалі. Саюзныя інтарэсы былі прыярытэтнымі, рэспубліканскія — на другім плане. У гэтай сітуацыі для кіраўнікоў рэспублік былі як свае мінусы, так і плюсы. Непаваротлівасць, некампетэнтнасць, абыякавасць, нерашучасць лёгка прыкрываліся разважаннямі аб дыктаце маскоўскага цэнтра, неабходнасці выконваць яго загады і г. д. Цяпер, калі Саюз рухнуў, ад новых лідэраў рэспублік народы чакаюць неадкладных, рашучых і плённых дзеянняў па абароне іх інтарэсаў. Што вельмі цяжка зрабіць без ушчамлення інтарэсаў суседніх дзяржаў. Напрыклад, Расія, каб удыхнуць свежыя сілы ў нафтаздабываючую прамысловасць, мяркуе неўзабаве вызваліць цэны на энерганосьбіты. Украіна рэзка пратэстуе супраць гэтага кроку, кажа, што ён пасварыць краіны СНД.

Чаму Садружнасць наша такая нядружная? Чаму пасля эйфарыі Белавежскай пушчы ўсё часцей гучаць скептычныя галасы наконт мэтазгоднасці стварэння СНД? Нават Л. Краўчук, які лічыць сябе яе ініцыятарам, канстатаваў на прэс-канферэнцыі: СНД не выпрацавала інструментаў і механізмаў вырашэння складаных пытанняў. Вось і кіеўская сустрэча не стала пераломнай у гэтым сэнсе. Яна, паводле яго слоў, і не магла стаць такой.

Б. Ельцын прызнаўся, што ён таксама не лічыць сустрэчу пераломнай. Яна была чарговай, але больш выніковай у параўнанні з папярэднімі па колькасці прынятых дакументаў. Як прыклад яе эфектыўнасці Ельцын назваў завяршэнне складаных перагавораў па ўсіх прававых пытаннях, звязаных з аб'яднанымі ўзброенымі сіламі СНД. Ён таксама пахваліў Украіну за вельмі канструктыўную пазіцыю ў час гутарак на ваенную тэму.

Л. Краўчук своеасабліва адрэагаваў на камплімент. «Я разумею, што Барыс Мікалаевіч пра канструктыўную пазіцыю Украіны гаварыў з іроніяй. Бо Украіна не ўдзельнічала ў падпісанні дакументаў па аб'яднаных узброеных сілах. Мы ўдзельнічалі ў іншых дакументах».

(Заканчэнне на 3-й стар.).

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ:*

## «СНД ПАТРЭБНА. ЯНА БУДЗЕ ЖЫЦЬ!»

Як і чакалася, чарговая сустрэча кіраўнікоў краін — членаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў выклікала вялікую цікавасць. Дзесяткі журналістаў асвятлялі яе непасрэдна ў Кіеве, яшчэ больш чакалі ўдзельнікаў нарады на месцах. Прама ў самалётах, каля трапаў іх у аэрапортах, непасрэдна на рабочых месцах лідэры Садружнасці далі за апошнія тры дні мноства інтэрв'ю і каментарыяў, у якіх паімкнуліся прыадчыніць дзверы сустрэчы, растлумачыць свае паводзіны і пазіцыі, ацаніць ход і вынікі работы... І гэта, вядома ж, не выпадкова. Растрывожаны «вулей» былога Саюза ССР сёння не дазваляе ўсім і кожнаму спакойна і стрымана глядзець на нашу няпэўнасць, хісткасць, разрозненасць дзеянняў і паводзін. Ці ёсць з усяго гэтага выйсце? Дзе яно?

Учора раніцай прэс-канферэнцыю для журналістаў сталіцы рэспублікі даў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч.

Напачатку гутаркі Станіслаў Станіслававіч зрабіў такую заяву:

— Я хацеў бы вас папрасіць быць вельмі дакладнымі ў ацэнках, спасылках на думкі і выказванні іншых. У прыватнасці, карэспандэнты, якія былі з намі ў Кіеве, сказілі пазіцыю, якую займала дэлегацыя Беларусі. Анатоль Майсеня ў «Народнай газеце» напісаў так: «Станіслаў Шушкевіч звярнуўся да глаў дзяржаў — удзельніц СНД з прапановай па арганізацыі аб'яднаных пагранічных войск на граніцы Беларусі з прыбалтыйскімі дзяржавамі...» З такім запытаннем я ні да каго не звяртаўся і гэта катэгарычнае скажэнне пазіцыі можа мець пэўныя палітычныя высновы.

С. Шушкевіч адразу ж растлумачыў сутнасць справы. Адкрываецца новая граніца з прыбалтыйскімі дзяржавамі. Натуральна, узнікае неабходнасць ва ўзвядзенні на ёй шэрагу аб'ектаў для нармальнага функцыяніравання. А паколькі граніца будзе служыць і іншым членам Садружнасці Незалежных Дзяржаў, Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі звярнуўся з просьбай да кіраўнікоў СНД аб сумесным фінансаванні яе. І гэта лагічна. «Вырашана заключыць пагадненне толькі з Расійскай Федэрацыяй, — зазначыў ён, — паколькі яна мае львіную долю інтарэсаў да гэтай граніцы. Пагадненне гэта датычыцца толькі матэрыяльнага забеспячэння. Ніякіх палітычных дзеянняў тут не было і няма».

... У парадак дня сустрэчы ў Кіеве было вынесена 21 пытанне. Самыя вялікія складанасці ўзніклі ўжо пры разглядзе першых з іх. Гэта — пагадненні аб падзеле ўласнасці былога Саюза ССР, а таксама аб актывах і пасівах былога Дзяржбанка СССР. Разглядам гэтых пытанняў Станіслаў Станіслававіч застаўся незадаволены. «Рашэнні прыняты безаблічныя, у іх закладзена патэнцыяльная магчымасць паралізаваць дзейнасць па вырашэнню праблемы ў далейшым, — зазначыў ён. — Расія па сутнасці блакіравала іх вырашэнне». Сёння яна, як вядома, поўнасцю распараджаецца лёсам большасці маёмасці былога Саюза, і выйсце тут яшчэ прадстаіць шукаць ды шукаць...

Іншыя пытанні, на думку кіраўніка беларускага парламента, разглядаліся на сустрэчы выключна канструктыўна, былі знойдзены, як падкрэсліў ён, дастойныя вырашэнні. У тым ліку і рашэнні аб стварэнні сіл хуткага рэагавання, у якіх выкарыстаны багаты вопыт Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе.

Аднак не па ўсіх праблемах дня Беларусь, так сказаць, ківала галавой у знак згоды і паразумення. У прыватнасці, нашай дэлегацыяй не падпісана пагадненне аб агульных Узброеных Сілах Садружнасці Незалежных Дзяржаў, а да шэрагу іншых дакументаў рэспубліка далучылася толькі на пераходны перыяд, гэта значыць, на два гады.

А вось як выглядалі адказы Станіслава Шушкевіча на шэраг іншых пытанняў, зададзеных на прэс-канферэнцыі маімі калегамі-журналістамі:

**— Пасля папярэдняй сустрэчы ў Мінску, адказваючы на пытанне аб будучыні Садружнасці Незалежных Дзяржаў, вы сказалі, што яна будзе жыць... Ці не змянілася пазіцыя зараз?**

— Большасць нашых сённяшніх складанасцей жыцця мы звязваем нібыта з тым, што развалíўся Савецкі Саюз. А строга кажучы, гэта не так, дакладней, не толькі таму... Эканоміка былога СССР працавала ў стане найвялікшай напружанасці. Процьма размеркавальшчыкаў займалася стварэннем вельмі нелагічных эканамічных структур. Яны працавалі і функцыяніравалі адміністрацыйна - каманднымі метадамі, і было зразумела, што такая сістэма развівацца, функцыяніраваць і выпускаць канкурэнтаздольную прадукцыю не можа. Трэба было мяняць падыходы... І гэта мы пачалі рабіць.

Цяпер жа, калі што-небудзь штопарыцца, кажуць: адбыліся разрывы сувязей. Не, іх ніхто не рваў. Няма цяпер ні забарон, ні квот... Адбываецца пераход на новыя асновы. Не трэба блытаць прычыны. І нявarта чакаць, што нарада СНД дасць вынікі для эканомікі. Мы павінны закладваць прававыя асновы ўзаемадзеяння дзяржаў. І гэта, прынамсі, робіцца. Метадамі просьбаў, націскаў тут не абыдзешся. Пачынае спрацоўваць рынак... А рыначныя адносіны трэба ўводзіць плаўна, паэтапна. Чакаць, што прыйдзе ўсё само па сабе, нельга. Усё трэба рабіць памяркоўна. І вынікі будуць. Так, вырашана ўжо пытанне аб чыгунцы — пытанне вострае, неадназначнае. Я яшчэ раз паўтараю: СНД патрэбна, яна будзе жыць!

**— Якія будуць функцыі і абавязкі «блакітных касак» СНД?**

— Праблема іх стварэння тонкая. Гэтыя войскі будуць накіроўвацца ў раёны канфліктаў на тэрыторыі Садружнасці толькі са згоды абодвух канфліктуючых бакоў пасля спынення баявых дзеянняў. Войскі будуць толькі забяспечваць умовы захавання перамір'я. Набор у іх будзе выключна добраахвотны.

**— Як праходзіла абмеркаванне пытання аб лёсе тэлерадыёкампаніі «Астанкіна»?**

— Пытанне не вырашана. Прапанавана прапрацаваць яго кіраўнікам урадаў. Тут назіраецца моцнае процідзеянне ў падыходах. Фінансаваць яго патрабуюць, але ж прэтэнзій да кампаніі шмат. Выкарыстоўваецца яна як прапагандысцкая структура ў ацэнцы палітычных падзей, і шчыра кажучы, я знаходжуся ў вялікім сумненні наконт яе лёсу. Чаму нам не пашукаць іншыя каналы інфармацыі, скажам, Сі-Эн-Эн?! «Астанкіна» вельмі тэндэнцыйна падбірае інфармацыю...

**— А што вы можаце сказаць аб лёсе Байканура?**

— Процістаяння наконт яго лёсу няма. Галоўнае паразуменне тут назіраецца. Дарэчы, Беларусь вельмі зацікаўлена лёсам Байканура: мы пастаўляем на касмадром шмат абсталявання, удзельнічаем у многіх яго праграмах. Але пытанне пакуль не гатова.

Катэгарычна не пагадзіўся Станіслаў Шушкевіч з довадам аднаго з журналістаў аб тым, што на сустрэчах кіраўнікоў СНД прымаецца шмат дакументаў, але яны зусім не выконваюцца, «не працуюць». «Міжурадавыя дагаворы выконваюцца ўсе, працуе Гаспадарчы суд, — сказаў ён, — але трэба ўдасканальваць заканадаўства. Пытанняў надалей будзем разглядаць менш. Мы стварылі ўжо шэраг структур, якія здольны вырашаць праблемы на розных узроўнях: кіраўнікоў Вярхоўных Саветаў, урадаў, міністэрстваў і гэтак далей».

Наступная нарада кіраўнікоў краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў запланавана на 15 мая. Яна пройдзе ў Ташкенце.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

